№ 1 — КАСТРЫЧНІК 1947 г.

# БОЖЫМ ШЛЯХАМ

З ведай, верай, надзеяй і любоўю да лепшае будучыні.

Часапіс Беларускае рэлігійнае думкі.

«SUR LA VOIE DIVINE».
Mensuel religieux biélorussien.

Цана нумару 30 фр.

Адрыс радакцыі:
Adresse : Redaction, 35, rue de Sèvres, Paris (6).

Падпісная цана на год 300 фр.

# Наша палажэньне—нашы мэты

Калі-б хто хацеў трапна назваць як культурна-нацыянальнае так і гэопалітычнае палажэньне нашага народу, дык хіба на гэта ня знойдзе больш адпаведнага тэрміну, як вось гэты: на скрыжаваньні. На тым крыжаваньні розных дарогаў, інтарэсаў і ўплываў суджана было нашаму народу заснаваць сабе сялібу. З поўначы ваяўнічая Балта-Скандынавія, а з паўдня багатае старакультурнае Грэцка-Рымскае Міжземнамор'е; з захаду Гэрмана-Польскі, а з усходу Эўразійска-Расейскі экспанзыўны сьвет...

Наколькі з аднаго боку гэткае палажэньне давала народу культурна - гандлёвыя магчымасьці, як той гістарычны шлях «з Вараг у Грэкі», на толькі з другога гэтае-ж палажэньне выстаўляла край на сьмяротныя небясьпекі. У нашых часох гэтыя небясьпекі вырасьлі да жахлівых разьмераў.

Тут сходзіліся плямёны
Спрэчкі сілаю канчаць,
Каб багата адароны
Мілы край наш зваяваць,

А нас цяжка ў сэрцы раніць,
Пад прыгон узяць навек,
Нашы скарбы апаганіць,
Душу вынесьці на зьдзек;

Каб у віры тэй ашукі
Зьнішчыць нашы ўсе сьляды,
Каб ня ведалі і ўнукі,
Хто такія іх дзяды.

Швэд набытак наш паліў,
І лілася кроў нявінна —
І маскаль тут самачынна
Гвалт і зьдзекі утварыў...

Хіба ніхто, ніколі так жываўяўна не адчуваў трагічнае запраўднасьці, гэнай горкай жальбы песьняра, як адчуваем сёньня мы эмігранты — сьвежая ахвяра шалёнае буры — найстрашнейшае з гэтых «спрэчак»...

Дзеля скромных разьмераў артыкулу нельга ўсебакова заглыбляцца ў гэную трагэдыю, хачу закрануць толькі беражок яе духова-рэлігійнага боку.

Калі матэрыяльныя ды палітычныя спусташэньні гэтак даймаюць і ўздрыгаюць кожнага з нас, то што-ж казаць пра духова-культурныя, рэлігійныя, пра тыя асноўныя скарбы, ад якіх залежыць здароўе і адраджэнская сіла народу! Дагэтуль мы мо' так не адчувалі наглае патрэбы аб іх рупіцца. Сёньня, калі здрыгануўся ў асновах увесь сьвет, калі апакаліптычнае signum temporis адкрыла нам вочы, вусны і сэрцы, — шчырая, салідная рэлігійнасьць, як душазбаўчая ідэйна-інспірацыйная цэмэнтуючая, а нават і асэкуруючая сіла сталася так пажаданай, што калі-б перасталі старацца аб ёй мы, нашчадкі сьвятых бацькоў мучанікаў, дык тыя каменьні на румовішчах нашай слаўнай мінуўшчыны будуць яе крычма клікаць. Бо беларуская душа на скрыжаваньні, на пагубным раздарожжы! Усе з усяго сьвету і падсьвету ўздоўж і ўпапярок езьдзяць па ёй, як па той раз-

гароджанай сірочай ніве. Калі ў пару не адратуем яе, не абгародзім, ды ня ўзмоцнім — пропаснае бяздоньне можа глынуць усё нашае адраджэньне!

Але рэлігійны пункт у нас ёсьць так чулым, так набалелым, што бяз пэўнага рызыка нельга яго закранаць. Хай толькі дзе пачуецца хоцьбы лёгенькае прэлюдыюм рэлігійна - адраджэнскіх думак (ня кажучы ўжо пра якую паважнейшую імпрэзу), як зараз ужо некаторым у ваччу мроіцца спагуда «аскандаленае беларусаедзкае вуніі», што вось, вось ужо рыхтуецца спусьціцца на бедную загнаную заляканую эміграцкую душу прававерную «душахвацкі каршун»...

Браты! Не да мрояў нам! Каму ды нашто здасца сёньня пудала ў каноплях?

Калі-б крычачая патрэба і змушала каго гаварыць пра Вунію, а нат' плянаваць яе, то ўжо-ж бы не хацеў нікога абражаць яе карыкатураю; бо сёньня ўжо знайшлося-б лякарства ня толькі на абязшкоджаньне, але нават на ўкарысьненьне яе. Ад нас самых залежыць пераняць ініцыятыву ў свае рукі, і згодна з сваімі духовымі карысьцямі правесьці яе, а тым самым і адпадае «трэфнасьць» гэтае далікатнае праблемы.

Тымчасам аднак наша тэматыка іншая і іншая намечана мэта:

З матываў шчыра хрысьціянскіх ды патрыятычных, хочам нясьці паводля магчымасьці помач народу ў яго найгоршым горы ў сучасны найтрагічнейшы, але і найбольш ацьвяражаючы мамэнт — становімся пры самай сьмяротна балючай ране душы народнай, душы ў пункце пагубна духовакультурнага раздваеньня, вечна расьпінаючага беларускую душу на крыжы шавіністычных ды бязбожніцкіх эксплёатацыяў; становімся:

каб памагаць народу лячыцца ад абнэгацыі і раздробленьня,

каб ацьвеaccording, усьведамляць, узгадоўваць, гуртаваць, цэмантаваць,

каб пацяшаць, узмацняць на духу, падымаць, асьмяляць, гартаваць.

Каб забясьпечыць ад дачаснай і вечнай загубы.

Вось наша заданьне і наша мэта. Прызнаём — кволыя нашы сілы на так цяжкія сёньняшнія нашы абставіны працы, але сьвятасьць заданьня гварантуе нам Божую і вашу, Браты добрае волі, помач, падтрыманьне і выразумеласьць.

Галіна нашай працы, наш шлях — гэта шлях Божы, духовы, рэлігійны; аднак хочам яго разумець ня толькі ў сэнсе дэвацыйна - канфэсыйным, аднаабрадным, але і ў сэнсе шырэйшым — хрысьціянска - нацыяльнай культурнай ды сацыяльнай брацкасьці і салідарнасьці.

У мэтадзе нашай працы хацелі-б унікаць усяго, што нас дзеліць, а ажыцьцяўляць усё тое, што нас лучыць, падымае. Жадаем працы пазытыўнай, творчай, узгадоўваючай і клічам да яе ўсіх суродзічаў добрае волі.

— **Задума.**

# Крыніца моцы

Сучаснае палажэньне беларускае эміграцыі пад шмат якімі ўзглядамі даволі цяжкае і таму нічога дзіўнага, што сум а нават і зьнявера зьяўляюцца частымі гасьцямі як паасобных людзей, так і цэлых групаў. Між тым калі як калі, а сёньня нам трэба асаблівае моцы, каб перажыць сучаснае ліхалецьце, і дзеля гэтага ўсякае зьнявера ёсьць вельмі шкодным зьявішчам, бо яно вельмі аслабляе моц і вытрываласьць. Сумны настрой аднаго чалавека часам як зараза перадаецца іншым, а кожны чалавек, калі ён прыгноблены і засумаваны, дык ніякая работа ў яго ня клеіцца, і таму абавязкава трэба шукаць нейкую раду, каб заўчасу недапусьціць гэнага руйнацкага суму, што падкопвае нашы сілы.

Найлепшым і найбольш дзейным лекам на ўсякае зьнявера ёсьць моцная, шчырая і сьвятая Вера. Не якаясь сьляпая і забабонная, але самая разумная і пераконваючая вера ў Бога і Яго справядлівасьць.

Хто меў магчымасьць глыбей углянуць у гісторыю нашага народу, мог бачыць, што гэткаю вераю жыў наш народ праз стагодзьдзі цяжкае няволі, і гэткаю вераю жыве сёньня, і гэткаю вераю павінна жыць і наша эміграцыя, адарваная ад родных карэньняў, калі яна ня хоча марна загінуць.

Але адкуль браць доказы на гэткую веру?

Самы пабежны агляд мінулых і сучасных падзеяў дае незапярэчныя доказы, што сьветам кіруе Нехта мацнейшы за палітыкаў і зямскіх валадароў. Колькі ўжо зьмянілася апякуноў і паноў на нашай Бацькаўшчыне? — чым больш яны былі магутныя, тым больш жалюгодным быў іх канец. Хоць мы і ня ведаем часу, калі гэта станецца, дык Бог напэўна ведае, калі яшчэ тым, што сёньня там асталіся, зусім звод прыдзе.

Божы спосаб кіраваньня чалавекам і цэлымі народамі вельмі ясна і выразна выказаны праз вусны Багародзіцы ў песьні на чэсьць Госпада Бога:

«Учыніў сілу рукой сваёй; расьсеяў гордых думкамі сэрца іх; адабраў у моцных пасады, узьвялічыў пакорных, галодных здаволіў дабром, а багачоў адпусьціў з нічым» (Лук. 1, 51-53).

Ці-ж не паводля гэтых слоў сталася з тою палавінаю нашых апякуноў, што апанаваўшы частку нашае Бацькаўшчыны назвалі яе якімісь «крэсамі» і выгублівалі там усё наша роднае і народнае, а сёньня... яны самі сланяюцца на чужыне і аглядаюць свой родны край у гэткім-жа палажэньні як і наш? Ці-ж не паводля гэтых слоў сталася з Гітлерам і яго пачкаю, што ўжо цешыліся перамогаю і прысабечвалі чужыя землі — дзе яны сёньня? Ці-ж не паводля гэтых слоў сталася з будаўнічым найбольш жудаснага канцэнтрацыйнага лягэру ў Бярэзе Картускай, што яго асудзіў нядаўна сам-жа польскі народ? Ды ці ўсіх варта пералічаць і аднаўляць незагоеныя раны народнага цярпеньня?

«Насіў воўк — панесьлі і воўка».

Дык напэўна ня інакш як гэтым шляхам і далей Бог будзе кіраваць сьветам, таму і тым, што сёньня налажылі жудаснае ярмо на народ, не ўцячы ад Божага суду.

Наш народ уважліва прыглядаўся да жыцьця, глыбока сьлядзіў яго законамернасьці і прычыны і ўсюды назіраў Божую кіраўнічую руку ў сьвеце і гэтае назіраньне ясна адлюстраваў у сваёй мудрасьці: «Мы так, а Бог інак».

«Бяз Бога ні да парога, а з Богом хоць за мора».

«Бяз Бога і волас з галавы не спадзе».

«У Бога ўсё напагатове», і т. п.

Гэтая непахісная вера шырокіх народных масаў была крыніцаю моцы ў часе самых цяжкіх ліхалецьцяў; яна давала сілу і магчымасьць пяяць вясёлыя песьні нават і ў найцяжэйшых абставінах жыцьця, бо «Пакуль я плакаў, быў Бог аднакаў — як стаў сьпяваць, стаў Бог даваць».

Пад гэтым поглядам мы бачым вялікі кантраст між нашымі адраджэнскімі пісьменьнікамі і агульным настроем народнае творчасьці. У народнай творчасьці былі сумныя песьні аб долі некаторых людзей — нельга бяз узрушаньня слухаць песьняў сіраты, удавы, але ў агульным пераважае бадзёры а нават вясёлы тон. Нават сваё горкае жыцьцё народ мог апяваць жартліва:

Чаму-ж мне ня пець,
Чаму-ж ня гудзець,
Калі ў маёй хатачцы парадак ідзець?

Хоць у гэтай «хатачцы» жаўся Божа які парадак. Нават галошаньне па памёршых народ уняў у форму песьні дзе сум чаргуецца з надзеяю на будучае спатканьне.

Гэты агульны тон народнае творчасьці тым больш варты ўвагі, што самае жыцьцё народу было да тае ступені цяжкім, што першыя адраджэнскія пісьменьнікі, якія апісвалі гэтае жыцьцё ня мелі нават адпаведных слоў, каб выказаць яго цяжкі стан:

Ох! цяжкая доля! От так-бы здаецца
Скрозь зямлю прапаў-бы, ці ў сьлёзы разьліўся.
. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .
Ой нашто-ж мне вочкі, ой нашто-ж мне ясны,
Каб глядзеў я які я ад ўсіх няшчасны...

Або яшчэ мацней адзываецца той-жа паэт Францішак Багушэвіч у «Дудцы»:

Кінь наўкола вокам,
Дык крывавым сокам
Не сьлязой заплачаш,
Як усё абачыш.

Янка Купала ў «Адвечнай песьні» даводзіць гэты сум да найвышэйшага пункту. Ён канчае сваю паэму «Адвечная песьня» такім вобразам: Цень мужыка ўстае з магілы, каб даведацца аб зьменах у жыцьці, але вецер яму прыносіць такія весткі, што ён адзываецца:

Гэй расчыніся нанова магіла,
Страшней цябе людзі і сьвет.

Калі аднак гэтыя і наступныя пісьменьнікі глыбей пранікалі ў народную творчасьць і адтуль чэрпалі натхненьне, іх тон зьмяняўся. Калі яны маглі сказаць за Янам Няслухоўскім:

Ня я пяю — народ Божы
Даў мне ў песьню лад прыгожы.

тады яны змаглі вышэй узьняць голавы з моцнай надзеяй паўтараць і далейшыя словы паэта:

Сонца навукі скрозь хмары цёмныя
прагляне ясна над нашай ніваю,
і будуць жыці дзеткі патомныя
добраю доляй, доляй шчасьліваю.

Калі пазьней паэты маглі пабачыць прабуджэньне і частковы ўздым народу, дык бадзёры тон і непахісная надзея стаюць істотнаю азнакаю іх творчасьці. Я. Купала адчуў у народзе такую сілу, што клікаў:

К свабодзе роўнасьці і знаньню
мы працярэбім сабе сьлед!
І будзе ўнукаў панаваньне
там, дзе сягоньня плача дзед!

Народ пакліканы Богам да жыцьця жыве і будзе жыць. У цярпеньні, як у агні ачысьціцца ад тае заімшэласьці, што нарасла на народнай душы за час упадку, загартуецца і набярэ моцы, каб на будучыню ня падаць пад цягаром свайго крыжа.

Нараджэньне чалавека з волі Бога, суправаджаецца цяжкімі болямі маткі; мы сёньня пера-

жываем час вялікага нараджэньня і таму мусім цярпець вялікія болі, але з Божай помаччу мы ўсё перанясём і ўсё ператрываем. Хто маладушны, хай зьвернецца да крыніцы веры, як зьярталіся нашы бацькі і дзяды і там знойдзе сабе ўмацаваньне.

**БРАТУ**

Прыхілены горам, ці сумнай трывогай,
Ня гніся ты назем: гарніся да Бога,
І вока сваё аж да зор паднясі.

Бо хто ня шукае ні ў чым вышшай волі,
Той праўданькі Божай ня ўбача ніколі;
За гэткага сьлепня ты Бога прасі.

Каб чыста і проста мы ў неба глядзелі,
Нядоля і гора між намі-б зрадзелі;
Над людзкім заскемствам, браток, галасі!

**Каз. Сваяк.**

# Пасланства сучаснае эміграцыі

Падзеі другое сусьветнае вайны такую вялікую колькасьць людзей пазбавілі бацькаўшчыны, што міжвольна прыходзіцца ня раз уважней затрымацца над гэтым зьявішчам і задумацца, ці ня мае яно якога глыбейшага сэнсу. Пэўна-ж ня нам людзям з сваім абмежаваным розумам уцяміць і судзіць Божыя пляны, бо «як неба высока ад зямлі, так думкі Божыя па-над думкамі людзкімі», (Іс. 55,9), аднак тым ня менш мы ня можам зрачыся дасьледаваць гэныя Божыя думкі і шляхі ў межах нашых магчымасьцяў. Таму ня толькі можна, а нават і трэба ўважлівей прыглянуцца з рэлігійнага гледзішча да зьявішча масавае эміграцыі, тых «перамешчаных асобаў» і пастарацца дагледзець тыя намеры, якія мог-бы мець што да гэтага Валадар сусьвету, каб пасьля з большаю шчырасьцю магчы паўтараць словы малітвы: «...Будзь воля Твая»...

Лік «перамешчаных асобаў» сёньня, не зважаючы на ўсякія прымусовыя і падступныя вывазы сягае бязмала мільён. Насамперш спытайма сябе: адкуль паходзіць уся гэтая мільённая маса ўцекачоў? Усё з тых абшараў, дзе людзі саманадзейна пастанавалі збудаваць «рай на зямлі» бяз Бога.

Наступна: Ці ўлада што цяпер існуе на абшары іх бацькаўшчыны робіць перашкоды іх павароту назад? Наадварот іх за ўсякую цану стараюцца звабіць туды, а калі гэта не памагае, дык ня цураюцца ніякіх спосабаў, што ёсьць у іх распараджэньні, каб захапіць гэтую масу эмігрантаў. Гэтым сучасныя «перамешчаныя асобы» істотна розьняцца ад усіх дагэтуляшніх эміграцыяў.

Можа ўмовы жыцьця гэтых бежанцаў тут у Зах. Эўропе такія спрыяючыя, што яны ня хочуць вяртацца ў горшыя ўмовы? Бадай што так, але тут нават бежанцы інтэлігенты працуюць як самыя звычайныя чорнарабочыя. Ды яшчэ каб толькі звычайныя; ёсьць шмат выпадкаў, што нават былыя прафэсары працуюць дабравольна ў найцяжэйшых умовах у капальнях вугольля, і гэтую працу ўважаюць за лепшае чым паварот дамоў.

А можа гэтыя бежанцы ня любяць свае Бацькаўшчыны? Наадварот, за Бацькаўшчыну яны не шкадуюць ніякіх, нават найцяжэйшых ахвяраў.

Дык можа гэтыя бежанцы гэта нейкія злачынцы, што ім пагражае вялікая кара? Калі-б запраўды было так,дык паўстае пытаньне: які-ж гэта такі лад у іх на бацькаўшчыне, што натварыў мільёны ворагаў для сябе з лона самога-ж народу? Варта было-б пры гэтай нагодзе пацікавіцца колькі мільёнаў людзей загінула там падчас тварэньня гэтага ладу і колькі мільёнаў падчас яго мацаваньня. Каб льга было дакладна іх пералічыць напэўна атрымаліся-б жудасныя лікі.

Цікава ведаць, якая ступень неахвоты гэтага павароту ў эмігрантаў? Вось-жа калі часам здараліся выпадкі, што іх бралі сіламоц, каб адаслаць на бацькаўшчыну, дык шмат хто з іх канчаў жыцьцё самагубствам; нават зьявіліся адкрытыя лісты да гэнэрала Айзэнгаўэра ў якіх між іншым даслоўна кажацца: «...калі ня можаце нас абараніць, дык пастраляйце нас лепш тут».

Але-ж няма такое краіны, каб заўсёды было цяжкое жыцьцё і нават у найлепш зарганізаванай дзяржаве здараюцца цяжэйшыя мамэнты, якія з

часам зьмяняюцца, дык магчыма, што і там-на бацькаўшчыне сучасных бежанцаў ужо даўно паражылі паганыя мамэнты і ўся маса бежанцаў ёсьць нясведамая сапраўднага стану рэчаў? Можна было-б з гэтым згадзіцца, каб бежанцы не пражывалі на сваёй бацькаўшчыне ад самае маленькасьці і бежанцамі сталіся ўсяго вось трэці год. Праўда свайго часу прапаганда шмат разводзілася аб тых зьменах. Але сам факт, што там магло адбыцца толькі зьменаў сьведчыць аб тым, што там ня ўсё было як сьлед, але не зважаючы на гэта, тая самая прапаганда пад неба выхваляла ўсё тамтэйшае так перад зьменамі, як і па зьменах. Дзіўна, нашто былі патрэбныя тыя зьмены, калі і да іх было ўсё як найлепш! Відаць што з праўдаю там ня вельмі лічацца.

У сучасны мамэнт «перамешчаныя асобы» раскіданы па ўсіх закутках Зах. Эўропы і Амэрыкі і спатыкаюцца з усімі жыхарамі гэтых краінаў; ёсьць краіны і дзяржавы, якія ўпрост неспадзявана сталі перад фактам прысутнасьці няпрошаных чужынцаў. Словам амаль усюды можна спаткаць гэтых «чужынцоў», і няма такога чалавека, каб на толькі быў пазбаўлены цікавасьці, што ня спытаўся сябе самога, або нават упрост гэтага-ж чужынца: «Чаму ня хочаш вяртацца на бацькаўшчыну?» У часапісе «На шляху» № 3. бач. 11. даслоўна знайходзім гэткі выпадак. Маладая ангелька пытаецца беларуса:

—А на бацькаўшчыну калі паедзеш?

— Здаецца што ніколі.

— Чаму?

— Ты лепш аб гэтым ня пытайся.

— Чаму? — налягала ўважна ўталопіўшы ў мяне вочы.

Гэтае «чаму» мусіць напрасіцца кожнаму, хто сустрэнецца з сучаснымі «перамешчанымі асобамі», і тут магчыма крыецца тайніца сучаснага бежанства. Тымбольш што пытаньне аб «перамешчаных асобах» ніколі не перастае быць актуальным у бюрах дыпляматаў, на старонках газэтаў і на радыёвых хвалях. То з аднага то з другага боку ні адтуль ні адсюль возьмуць ды заварушаць, быццам наўмысьля, каб аб гэтым сьвет не забыўся. Дык ці не таму Бог параскідаў гэтых людзей з-па-за межаў таго бязбожнага «раю на зямлі» па-за межамі гэтага «раю» каб перасьцерагчы рэшту сьвету і каб даць магчымасьць уважней прыглянуцца да свайго жыцьцёвага шляху, каб і ім ня прышлося ісьці гэткім цярністым шляхам?

Ёсьць яшчэ на сьвеце шмат людзей, якія маюць поўныя міскі і поўныя кішэні, ды глядзяць абыякава на тое, што вокал іх дзеецца — ім вось пасылае Бог перад вачыма постаці бежанцаў — пасланцоў з іншага сьвету, з бязбожнага «раю»; і хоць гэтыя людзі ў прысутнасьці розных уплывовых асобаў найчасьцей змушаны маўчаць, але іх постаці клічуць нема, бяз слоў:

— Ратуйцеся, пакуль яшчэ час, ад бязбожнага ладу, каб ня стацца такімі, як мы!!!

У шмат якіх установах займаюцца спакойна ўрадоўцы і туды наплываюць бежанцы, і там іх прыгнобленыя постаці клічуць:

— Колькі сіл маеш, не дапускай, каб і тут сталася падобнае няшчасьце!

Высокія дыпляматы, заглыбіўшыся ў сваіх плянах, атрымоўваюць цэлыя кучы розных справаў датычна «прамешчаных асобаў» і так сама кожная паперына ў справе гэтых людзей нема галосіць:

— Далажы ўсіх сілаў, каб самому ня прышлося йсьці іх сьледам!!!

Для шмат каго збудзянеў голас царкоўных званоў, знудзіліся казаньні сьвятароў, чужымі сталіся сьвятыні, ацяжэлі вушы на евангельскія словы Божае праўды — дык вось магчыма што добры Бог пасылае цяпер замест сваіх прарокаў цэлыя мільёны выгнанцаў, каб апаматаліся тыя, якія думаюць наладзіць сваё жыцьцё бяз Бога, каб завярнулі сваё жыцьцё на добры шлях.

Сучасныя бежанцы гэта ня толькі так сабе «перамешчаныя асобы», не! гэта людзі, якія нясуць з сабою боль бацькаўшчыны і цярпеньні самога Хрыста за збунтаваных Яго сыноў.

Каб-жа належна адчулі і зразумелі, гэтую Божую праўду тыя, да каго яна накіравана.

Л. Хар-ко.

# „Сьмешнасьці“ у рэлігіі

Хрысьціянская рэлігія вымагае ад сваіх вернікаў некаторых практыкаў, што для бязбожнікаў часта былі тэмаю для насьмешкаў. Ад вернікаў вымагаецца ня толькі захаваньня Божых прыказаньняў, але такжа і прыказаньняў царкоўных між якімі вымагаецца захаваньне прыпісаных пастоў, (Заўвага: Падчас вайны і аж да часу ўнармаваньня харчовых адносінаў Сьвяцейшы Айцец звальняе ад посту), забараняецца сужэнства між блізкімі роднымі і сваякамі, аддаецца пашану іконам сьвятых і гэтыя іконы малююцца з аўрэолямі, або сяйвамі вакол галавы сьвятога; сама богапашана зьвязана так-жа з рознымі абрадамі.

Сьмяяліся над гэтым. Бо і як-жа не сьмяяцца, калі мяса аднолькава смакуе як у нядзелю так і ў пятніцу; калі каханьне не разьбіраецца ў ступенях сваяцтва? Або што за сэнс чапляць нейкі круг над абразом чалавека, што за жыцьця яго ніхто ніколі ня бачыў?

Так было да нядаўна. Але вось і ў гэтых справах навука сказала сваё слова. І апошні сказ навукі дзіўна годзіцца з вымогамі рэлігіі, а часам

нават іх перавышае ў сваіх вымаганьнях.

Сучасная мэдыцына прызнала, што пост ня толькі ня шкодзіць здароўю чалавека, але наадварот, ён вельмі карысны, а часам нават неабходны. Выяўлена, што большая колькасьць хваробаў стрававальнага шляху выклікаецца выключна непамяркоўным харчаваньнем. Амаль усе хваробы страўніка і стравальнага шляху сёньня акрамя лекаў лечацца сьціслаю дыетаю, якая больш вымагальная чым які-б то ні быў пост. Да таго сучасная мэдыцына ведае нават галодныя дыеты, гэта значыць шчыры пост, часта на працягу некалькіх дзён. У 1921 г. амэрыканскі лекар др. Давэй апублікаваў спэцыяльную працу «Пост, які лечыць», у гэтай кнізе аўтар дае шмат доказаў, што шчыры пост, аж да адновы прыроднага апэтыту ёсьць найлепшым лекам супроць шмат якіх хваробаў, бо абсорбцыя неператраўленае спажывы, завальвае арганізм, абцяжвае нармальнае функцыянаваньне органаў. Паводля таго-ж лекара, частковы пост зьяўляецца найлепшым сродкам для добрага здароўя.

Што да забароны сужэнстваў між блізкімі роднымі і сваякамі, дык ад нядаўна створана адумысная навука так званая эўгэніка, якая займаецца пытаньнем палепшаньня людзкога роду; і вось гэтая навука ня толькі падцьвердзіла вымогі царквы што да сужэнстваў, але значна іх пабольшыла. Ня так даўно выкрылі біялягічны закон, паводля якога патомства ад блізка спародненых сужонкаў будзе тым больш кволае і больш абцяжана спадковымі хваробамі, якія ёсьць у данай сям'і, чым у бліжэйшай ступені спародненьня будуць сужонкі. На аснове статыстычных дадзеных сьцьверджана, што патомства гэткіх сужэстваў параўнальна больш хвараблівае і вельмі часта такія сужэнствы ёсьць зусім бяздзетныя. Да таго з гісторыі ведама, што ў тых асяродзьдзях, дзе часта жэняцца ў блізкіх ступенях, назіраецца выміраньне родаў, напр. выміраньне некаторых арыстакратычных фаміліяў, выміраньне ўцалеўшае яшчэ жменькі самаранаў і т. п. Прырода з волі Бога бароніцца перад такімі сужэнствамі; між блізкімі роднымі існуе так званы «страх крыві», які не дапушчае да інтымных адносін між найбліжэйшымі роднымі. Трэба аднак засьцерагчыся, што ў некаторых справах эўгэніка йдзе аж так далёка з сваімі вымогамі, што іх рэлігія асуджае, так як раней асуджала поўную расхлябанасьць у справах сужэнства.

З аўрэолямі сьвятых на іконах, дык яшчэ цікавейша справа. Нядаўна, бо ўсяго ў 1924 г. савецкі вучоны Аляксандар Гаўрылавіч Гурвіч (яшчэ да рэвалюцыі артымаў асьвету ў Ляйпцыгу) выкрыў перш у цыбулі, а потым ува ўсіх жывых істотах у тым ліку і ў чалавека, асаблівыя праменьні і назваў іх мітогэнэтычныя — гэта значыць выклікаючыя дзяленьне каморачак. Досьледы над гэтымі праменьнямі ў чалавека знаходзяцца толькі ў пачатковай стадыі, але тым ня менш вельмі цікавыя. Бо ўжо цяпер ведама, што найбольш іх маюць дзеці і здаровыя мужчыны, а найменш хворыя і старыя жанкі, аднак гэтага нельга ўагульніваць, бо тут ёсьць адзінкі, якія маюць свае нормы. Прырода гэтых праменьняў зусім такая, як «аўра» старых грэцкіх філёзафаў, і якая дала аснову старым іконапісцам маляваць аўрэолі вакол галоў сьвятых на іконах. У 1933 г. на сусьветным кангрэсе фізыкаў у Мэдыяляне некаторыя вучоныя, што займаліся мітогэнэтычнымі праменьнямі, выказвалі думку, што той чалавек мае параўнальна больш гэтых праменьняў, каторы маральна стаіць вышэй, іншымі славамі гэта значыць, чым ён сьвяцейшы, а якраз гэта сымбалічна выказваецца на іконах аўрэолямі, або сяйвамі на абразох.

Падобна маецца справа з іншымі вымогамі і рэлігійнымі практыкамі. Яшчэ нядаўна было модным насьмяхацца над хрысьціянскаю аскезаю, а тымчасам сучасныя шматлікія вучоныя пасьля доўгагадовых досьледаў дайшлі да перакананьня, што «кожны чалавек мае ўроджанае імкненьне заспакойваць свае фізыялягічныя патрабаваньні і штучныя вымогі, як алкаголю, хуткасьці, безнастаннае зьмены. Але ён звыродніваецца, калі гэтыя схільнасьці заспакойвае зусім. Вось-жа ён мусіць прызвычайвацца да апанаваньня свайго голаду, свае патрэбы сну, сваіх плоцьных імпульсаў, свайго гультайства, любасьці да гімнастыкаваньня цягліц, да алкаголю і т. п. Надмер сну і ежы шкодзяць горш, як іх недахоп, кажа праф. др. Каррэль у сваёй кнізе «Чалавек непазнаны». Падобна адзываецца ведамы вучоны праф. др. Шуман — выдатны псыхалёг і пэдагог. Ён падае рады для захаваньня здаровага псыхічнага жыцьця, што зусім пакрываюцца з хрысьціянскаю аскезаю.

Шырокаведамы сучасны вучоны др. Альфрэд Адлер лекар нэрвовых хваробаў і пэдагог, асновапаложнік індывідуальнае псыхалёгіі кажа: «Суб'ектыўнае паддаваньне сябе плоцьным гонам і непрыстасаваньне сябе да грамадзкае рэальнасьці зьяўляецца прычынаю нэрвіцаў, а дабравольнае прыстасаваньне сябе да грамадзкіх і этычных нормаў ёсьць умовою здароўя і характару».

Пры гэтай нагодзе варта заценіць, што так доўга і шырокавалкаваная справа канца сьвету, пасьля выбуху атомнае бомбы сталася раптам на толькі магчымаю, што падчас далейшых досьледаў над гэтым страшным аружжам, вучоныя з ўсёю павагаю свайго становішча робяць розныя мерапрыемствы перасьцярогі, каб сьвет у адным нечаканым і неспадзяваным мамэнце не разьляцеўся, як той японскі горад Гірошыма.

Гэта толькі кароценькі агляд з навуковага гледзішча на некаторыя пытаньні зьвязаныя з рэ-

лігіяю, але ўжо гэтага даволі, каб бачыць, як беспадстаўнымі і неразумнымі былі тыя насьмешкі, якія накіроўваліся ня раз пад адрысам рэлігіі з бязбожніцкага асяродзьдзя.

Рэлігія пад кожным зглядам мае свой глыбокі сэнс, але ня кожны гэта можа бачыць і разумець.

# Беларускія сьвятыя

Гісторыя Беларускае Царквы яшчэ да гэтага часу чакае сваіх дасьледнікаў, а беларуская гагіяграфія і пагатоў, таму нічога дзіўнага, што шмат хто з беларусаў ня ведае сваіх вялікіх людзей — сваіх сьвятых. Трэба аднак засьцерагчыся, што беларускія сьвятыя, як і агулам сьвятыя людзі іншых народаў найчасьцей ня мелі якогась яскравага нацыяналізму ў сваім земскім жыцьці, а ў сучасным нябесным тым больш ня робяць розьніцы між людзьмі, якія да іх зьвяртаюцца за помаччу. Так і між беларускімі сьвятымі ёсьць аж некалькіх такіх, што іх нават нельга выразна разрозьніць: ці яны украінцы ці беларусы, бо прыналежаць абодвым народам.

У ніжэй паданы сьпіс сьвятых увайшлі перадусім тыя сьвятыя і людзі якім аддаецца хоць мяйсцовы культ, якія вялікую частку свайго жыцьця і дзейнасьці правялі на Беларусі. Ня шмат іх тут у сьпісе, бо з упадкам беларускае дзяржаўнасьці, беларускае рэлігійнае жыцьцё перайшло пад чужацкі варожы кантроль і сталася для захопніцкіх дзяржаваў прыладаю вынарадаўленьня, а не асьвячаньня народу. Калі ў тым часе нават і былі беларусы вялікае і гэройскае сьвятасьці, дык ня было магчымасьці і ня было каму паклапаціцца, каб захаваць іх у належнай пашане. Кажам гэта не надаўгад, а на аснове нязьбітых фактаў. Бо ці-ж гэта ня ёсьць гэройская сьвятасьць якую праявіў а. Язэп Анчэўскі († 1877), што аж 32 гады прасядзеў пад замком па загаду расейскага цара ў Суздальскім манастыры за сваю веру? А падобных да яго, паводля маскоўскіх вестак, было аж 160 сьвятароў, беларусаў і украінцаў. А колькі на роднай зямлі аддало жыцьцё за сваю веру? Толькі Бог адзін іх лік і імёны ведае. Таму і сучасны сьвяцейшы Айцец Пій XII у сваёй энцыкліцы аб Усходняй Царкве — з 23-XII-1945 г. гаворачы аб такіх мучаніках, зазначае, што «ёсьць надзея, што калісь іх можна будзе залічыць у рады сьвятых» (бач. 22).

Для агульнае арыентацыі падаём усіх больш ведамых на Беларусі сьвятых незалежна ад іх веравызнаваньня.

Антон, Іван і Еўстафі † 1347 г. Віленскія мучанікі і цудатворцы, прызнаныя ў гр.-кат. і прав. Царкве. Памяць 27/14-IV.

Аўрам Смаленскі † 1221 патрон багаслоўскае асьветы на Беларусі, прызнаны ў Усх.-кат. і прав. Царкве. Памяць 21-VIII.

Афанасі іг. Берасьцейскі † 1648. Правасл. мяйсцовы, 2-VIII.

Гаўрыла юнак Слуцкі † 1690. лягэндарная постаць у прав. Царкве.

Герасім мітр. Смаленскі, спалены Сьвідрыгайлам на кастры ў Віцебску 1435 г. Аб ім захаваліся вельмі мала вестак.

Давід кн. Смаленскі. Мяйсцовы прав. сьвяты, пам. 19-IX.

Ёсафат еп. Полацкі 1580-1623. Пам. 12-XI у катол. Царкве ўсіх абр.

Еўфрасіня-Прадслава княжна і ігуменьня Полацкая † 1167 г.*). Патронка Беларусі, пам. 23-V. Усх.-кат. і прав. Царкве.

Ефрэм Смаленскі XIII ст. мяйсцовы сьв. прав. Царквы.

Ігнат еп. Смаленскі † 1210 субяседнік Аўрама. Мяйсцовы сьвяты, пам. 29-1.

Канстанцін кн. Смаленскі цудатворац, пам. 19-IX.

Казімір вял. князь беларускі † 1484. пам. 4-III у рым.-кат. Царкве.

Кірыла еп. Тураўскі жыў к 1130-1182, беларускі Залатавусты, пам. 28-IV у усх.-кат. і прав. Царкве.

Лаўрэнці Тураўскі † 1183. мяйсцовы сьвяты пам. 21-1.

Меркуры воін Смаленскі † 1238. лягэндарная постаць, пам. 7-X. і 24-(22)-IX.

Параскева іг. Полацкая † 1243. мяйсц. усх.-кат. Царкве.

Расьціслаў Мсьціслававіч кн. Смаленскі. прав. мяйсцовы сьв.

З часам, калі Бог дазволіць, будзем старацца падаваць больш дакладныя весткі аб паасобных сьвятых, бо верым, што не адзін з іх можа стацца добрым прыкладам для асьвячаньня нашага жыцьця. Да таго некаторыя з пералічаных сьвятых зусім некананізаваныя і вымагаюць канчатковага выясненьня іх культу.

---

*) Дата сьмерці ўсталена апошнімі досьледамі.

# Агульны агляд сучаснага беларускага рэлігійнага жыцьця

Гэты агляд мае на ўвеце ў першую чаргу сучасныя ерархічныя адносіны як на бацькаўшчыне так і на эміграцыі ,таму засьцерагаемся, што самых рэлігійных настрояў беларускіх народных гушчаў тут ня будзем закранаць.

Для яснасьці гэтага кароткага агляду падзелім яго на асобныя пункты, аддаючы пяршынство больш шматлікім ерархіям.

## НА БАЦЬКАУШЧЫНЕ

### Праваслаўная Царква.

Таму што ерархія Беларускае Праваслаўнае Царквы ад 1944 г. уся бяз вынятку, знайшлася на эміграцыі, дык бальшавікі займаючы Беларусь в гэтага скарысталі, і на яе мейсца бяз ніякіх клопатаў паназначалі новых ерархаў сучаснае сталінскае Праваслаўнае Царквы. Із слоў мітр. Мікалая Круціцкага выходзіла-б, што з фактам існаваньня Аўтакефальнае Беларускае Праваслаўнае Царквы яны бьщцам рахаваліся, бо пасьля заняцьця Беларусі мела адбыцца нейкае фармальнае злучэньне гэтае Царквы з маскоўскаю патрыярхіяй, але дзе? як? і з кім? нічога бліжэй не азначаецца. Відаць што гэта былі толькі нейкія пустыя фармальнасьці. Зь Беларусі створана звычайную архіепіскопію з аседкам у Менску, тады як для Украіны і для Сібіры - Далёкага Усходу створаны экзархаты з мітрапалітамі на чале.

Ад 1944 г. менскім архіепіскапам быў Васілій Ротміров. Ад студзеня 1946 г. ён пераведзены на пакой, а яго пасад займае архіеп. Пітірым Свірідов, перанесены з Курска; гэта адзін з старэйшіх савецкіх ерархаў, хіратанізаваны пасьля 1933 г. і адзін з 19-ці ўдзельнікаў Сабору 1943 г. У 1946 г. ён атрымаў нагароду-мэдаль «За доблестный труд во время Отечественной войны 1941-45».

Іншыя ўсходнебеларускія епархіі, як Полацк, Віцебск, Гомель — пустуюць, толькі у Смаленску знайходзіцца еп. Сергей Смірнов, хіратанізаваны у 1944 г.

У Пінску ад 1946 г. знайходзіцца рэпатрыяваны з Чэхаславакіі архіеп. Данііл Юзьвюк.

У Горадні ад студзеня 1946 г. ёсьць новахіратанізаваны еп. Варсофоній Гріневіч, які да гэтага часу быў настаяцелям аднае з маскоўскіх цэркваў. Выглядае, што ён найбольш рухавы з усіх сучасных ерархаў на Беларусі.

У Берасьці кароткі час у 1945 г. быў новахіратанізаваны еп. Паісій, але хутка быў перанесены ў Чарнігаў ,а епархію прыдзелена да Пінска.

У Вільні знайходзіцца архіеп. Корнілій Попов, які да. 1943 г. быў абнаўленцам. Відаць такжа гэта чалавек старанлівы, бо за кароткі час атрымаў тытул архіепіскапа і мэдаль «За доблестный труд».

Сьвятароў усюды мала, нават і ў Зах. Беларусі, не зважаючы на тое, што на гэтыя становішчы высьвячваюць абы якіх ахвотнікаў. У «Журнале Маскоўскае Патрыярхіі» Нр. 4. 1947 г. гаворыцца, што на спатканьне архіеп. Пітірыма зьехаліся ў Менск усе абласныя благачынныя, з якімі потым была ўрачыста адслужана ўсяночная і літургія і падаецца, што з архіепіскапам служылі: 1 архімандрыт, 2 ігумэны і 13 протоіярэяў. Відаць што на ўсю Беларусь і ёсьць усяго толькі благачынных. Колькі ёсьць іншага сьвятарства, няма ніякіх вестак. Але ўжо з гэтага відаць, што цяпер там сьвятароў шмат менш чым было падчас нямецкае акупацыі.

Аб вандроўных сьвятарох на Беларусі нідзе не ўспамінаецца, хоць адначасна напр. у Чкалаўскай епархіі прыймаюцца радыкальныя меры барацьбы для ліквідацыі «самозванных совершителей треб (ЖМП Нр. 3 1947 г. бач. 53). З Горадзенскае епархіі даволі часта спатыкаюцца кароткія весткі на старонках «Журнала Маскоўскае Патрыярхіі», але заўсёды з нейкімі недагаворамі. Свабода свабодаю, але каб ваду на Нёмне асьвяціць на Вадохрышча трэба заўсёды мець дазвол ад мяйсцовае ўлады.

Ані сэмінарыі, ані нават сталых пастырскіх курсаў для падрыхтаваньня духавенства ў Беларусі няма. Толькі ў Горадні былі наладжаны курсы ад 3-Х да 2-ХІ 1946., але толькі для сьвятароў свае епархіі; разам з выкладчыкамі там удзельнічала 30 чалавек.

Пры кожнай нагодзе ў карэспандэнцыях старанна падчырквавецца. што на Беларусі цяпер ёсьць «Русская Православная Церковь» і выказваецца абяцаньне працаваць для дабра гэтае Царквы і «Родины», адначасна не забываюць шчыра дзякаваць савецкай уладзе за ўважлівыя адносіны.

### Рыма.—катал. Царква.

Аб палажэньні рыма-кат. Царквы на Беларусі ведама толькі агульна. З прэсы відаць, што бальшыня беларусаў рыма-кат. уважаючы, што ў сучаснай Польшчы яшчэ ня зусім савецкі лад, запісаліся палякамі і згаласіліся на выезд. Нават некаторыя праваслаўныя даканалі падобнае мэтамарфозы, а нават і такія моцныя патрыёты як літоўцы спакусіліся на гэткі экспэрымэнт. Усіх гэткіх ама-

тараў павывозілі на новапрылучаныя да Польшчы землі. Аднак вялікая колькасьць каталікоў асталася на бацькаўшчыне; нават у ЖМП Нр. 1946. бач. 60. успамінаецца аб моцным іншаверным акружэньні ў Горадзеншчыне. Аб тым ці асталіся ксяндзы і дзе, ды колькі іх можа быць, тымчасам няма зусім ніякіх вестак. Што да біскупаў дык ведама, што польскі мітр. Ялбжыкоўскі знайходзіцца ў Беластоку, а біск. Неміра дзесь на ўсход ад Белавежы.

**Слав.-катал.** (Уніяцкая) **Царква.**

Да 1939 г. на ўсім абшары Беларусі было толькі 30. прыходаў гэтае Царквы. Амаль усе яны знайходзіліся ў стане арганізацыі, а некаторыя, з прычыны варожых адносінаў мяйсцовае ўлады, былі ўвесь час пад пагрозаю ліквідацыі. У часе самае вайны быў створаны Экзархат з а. Антонім Неманцэвічам, на чале, але як толькі ён выйшаў з укрыцьця і пачаў наладжваць сваю дзейнасьць, нямецкае С. Д. арыштавала а. Экзарха і замучылі насьмерць. Падчас спробы прадаўжаць дзейнасьць Экзархата, намесьнік Экзарха атрымаў загад з недвузначнымі пагрозамі перанесьціся ў «іншае мейсца». З узгляду на сучаснае палажэньне гаварыць аб іншых асобах і далейшай дзейнасьці Экзархату, немагчыма. Нядаўна былі няясныя весткі аб існаваньні на абшары Беласточчыні і Падлясься 7-і прыходаў з паменшаным лікам вернікаў, 8. прыходаў зачынена, а аб іншых няма вестак.

## НА ЭМІГРАЦЫІ

З сумам трэба сьцьвердзіць, што на эміграцыі беларускае рэлігійнае жыцьцё ня надта радасьнейшае чым на бацькаўшчыне, хоць умовы да гэтага беспараўнаньня больш спрыятлівыя.

**Праваслаўная Царква.**

Уся ерархія «Беларускае Аўтакефальнае Праваслаўнае Царквы» ад 1944 г. знайшлася на эміграцыі ў Нямеччыне.

Пасьля ўпадку гітлераўскае ўлады, калі адчынілася шырокае поле для рэлігійнае дзейнасьці, ерархія Беларускае Праваслаўнае Царквы пастаралася хутчэй уліцца ў склад Расейскае Зарубежнае Праваслаўнае Царквы (26-IV-1946 г.). Гэты крок ерархаў даў прычыну да паважных закалотаў у жыцьці беларускае эміграцыі. Двох епіскапаў з паходжаньня беларусаў стараюцца залагодзіць дакананы факт тым, што наведваюць даволі часта беларускія лягэры і выясьняюць вернікам свой крок як тымчасовы. Адны з увагі на ерархаў, здавальняюцца гэтым выясьненьнем, другія не, і стараюцца пра епіскапа, які-б рэпрэзэнтаваў «Беларускую Аўтакефальную Праваслаўную Царкву».

Беларускіх праваслаўных сьвятароў на эміграцыі знайшлося нямала, але сьведамых толькі адзінкі. На жаль няма адносна гэтага лікавых даных. Цяпер пароблены стараньні павялічыць лік сьвятароў-беларусаў.

На абшары Англіі прадаўжае існаваць Аўтакефальная Польская Праваслаўная Царква з епіскапамі Савай і Матвеям. Усе жаўнеры польскае арміі, як калішнія польскія грамадзяне, падлягаюць іх душпастырскай апецы, якая старалася зрабіць зь іх «праваслаўных палякаў». Супроць гэтага жаўнеры беларусы неаднойчы пратэставалі, але ўлада стаіць на сваім старым становішчы.

Гэткім парадкам у сучасны мамэнт у лоне Праваслаўнае Царквы, што мае дачыненьні да беларусаў ёсьць аж чатыры арыентацыі: на савецкую Маскву, на незалежную Беларусь, на «единую неделимую» і на Варшаву.

**Рым.-кат. Царква.**

Беларусы рыма-кат. на эміграцыі знайшліся ня ў лепшых умовах, чым на бацькаўшчыне, бо да 1939 г. ня было беларускае рыма-катал. ерархіі і нават сьведамыя сьвятары беларусы, якіх да вайны было ведама больш 60-і чалавек падлягалі біскупам чужынцам. У выніку ваенных падзей і назістоўскага тэрору загінула з іх 11 чалавек — некаторыя запраўды гэройскаю сьвятарскаю сьмерцю. У сучасны мамэнт за межамі бацькаўшчыны ў розных кутках сьвету знайходзіцца ўсяго 6 чалавек, з іх 3. у Амэрыцы, але ўсе зьвязаны сваімі становішчамі і кананічнымі прыпісамі. Калі аднак у Нямеччыне беларусы пачалі гуртавацца ў асобныя лягэры і зьявілася магчымасьць утварыць беларускія парахвіі, адразу пароблены ўсе стараньні, каб гэтыя парахвіі былі абсаджаны беларускімі сьвятарамі. Ня маючы свае ерархіі гэтая справа палагоджваецца вельмі паволі, але ўсё-ж прыхільна.

**Слав.-катал.** (Уніяцкая) **Царква**

На эміграцыі знайшоўся толькі невялікі лік вернікаў і сьвятароў гэтае Царквы. Дзеля гэтага міма найлепшае волі, на эміграцыі зарганізаваць парахвію было вельмі цяжка. Аднак стараньні пароблены ў гэтым напрамку не асталіся бясследнымі. Сёньня яна зарганізавана параўнальна найлепш, хоць страты яе параўнальна найбольшыя. Усіх сьвятароў беларусаў да вайны было 23, а ў выніку выенных падзеяў загінула 8 сьвятароў. Сёньня за межамі бацькаўшчыны знайшлося ў Зах. Эўропе 3., а ў далёкай Азіі 4-ы сьвятары. Аб долі тых, што асталіся на бацькаўшчыне няма вестак.

Сёньня ў Францыі, Англіі і Нямеччыне сьвятары прыступілі да душпастырскае дзейнасьці, а

пра наладжаньне душпастырства ў Бэльгіі пароблены адпаведныя стараньні. Таму, што гэтая Царква стаіць на здаровым нацыянальна - рэлігійным грунце, дык стараньні аб утварэньні парахвіяў усюды паходзілі з ініцыятывы самых вернікаў пры шчырым падтрыманьні з боку сьвятароў.

Гэты кароткі агляд мае толькі інфармацыйны характар, таму нават не закранае справы сэктаў, якія да гэтага часу ў нас не скрышталізаваліся як сьлед. У далейшым у меру патрэбы будзем старацца падаваць больш падрабязныя і дакладныя інфармацыі. Але ўжо з гэтага кароткага агляду ясна, што беларуская рэлігійная ніва яшчэ толькі чакае сваіх працаўнікоў.

# Рэлігійная беларуская прэса на эміграцыі

Пачынаючы ад 1946 г. на абшары Зах. Эўропы выйшлі ў сьвет друкам, або на цыклёстылю наступныя беларускія кніжкі і часапісы рэлігійнага зьместу: «Божым шляхам» малітаўнік для беларусаў, выданы ў Рыме 1946 г. Малітаўнік мае 176 бач. друку фарм. 32° з разьдзеламі: малітваў, катэхізмовых паясьненьняў і набажных песьняў.

«Энцикліка Сьвяцейшага Айца Пія XII з нагоды 350-ых угодкаў прыяднаньня Беларускае і Украінскае Царквы да Апостальскага Пасаду», выдана ў Рыме 1946 г. мае 27 бач. друку фарм. 8°,

«Магутны Божа!» — рэлігійная песьня з нотамі, муз. М. Равенскага, словы Н. Арсеньнявай. Выданьне Беларускае Рэлігійнае Місіі, Парыж 1947.

«Зьвіняць званы Сьвятой Сафіі». Часапіс праваслаўных беларусаў. Выходзіць ад ліпеня 1946. у Рэгэнсбургу на цыклёстылю ад 16 да 44 бач.

«Беларускі царкоўны голас». Часапіс Беларускіх Праваслаўных Епіскапаў. Выходзіў у Тырсгайме ў 1946 г.

«Хрысьціянскі сьветач». Голас сябрыны беларусаў (мэтадыстаў) за мяжою. Выйшаў адзін нумар на 4 бач. цыклёстылю ў лістападзе 1946 г. у Іммэрдорфэ.

«Адражэньне» часапіс беларусаў каталікоў. Выходзіць на цыклёстылю ў Рэгэнсбургу ад сакавіка 1917 г.

«Беларуская думка». Выдае Беларускі Каталіцкі Парахвіяльны Камітэт у Ватэнштэце ад красавіка 1947 г. на цыклёстылю ў разьмеры ад 9 да 15 бач.

# Бязбожніцкая прапаганда на Беларусі

Пасьля кароткага паваеннага перапынку ад прошлага году зноў назіраецца значнае ўзмацненьне бязбожніцкае дзейнасьці на старонках беларускіх газэт і часапісаў у савецк. Беларусі. Што праўда, новага ў гэтай прапагандзе няма нічога. У часапісе «Работніца і сялянка» на супроцьрэлігійныя тэмы піша нейкі А. Езубчык; у газэце «Совецкі селянін» дапісвае праф. Радзецкі. Уся гэтая прапаганда разрахавана ў першую чаргу на сялян Заходняй Беларусі. Напрыклад у Берасьцейскай вобл. Жабінскім раёне прачытана цэлы рад лекцыяў між якімі на першым мейсцы быў даклад праф. Радзецкага аб «Паходжаньні жыцьця на зямлі». Агулам бязбожніцкая прапаганда сваею вучонасьцю пахваліцца ня можа, а што да вышэйўспомненых артыкулаў, дык не патрэбна мець вялікае вучонасьці, каб пабачыць тыя супярэчнасьці, якія спатыкаюцца на кожным кроку ў самых-жа артыкулах. Напрыклад А. Езубчык ў артыкуле «Аб паходжаньні жыцьця на зямлі» у часапісе «Работніца і сялянка» Нр. 6. з 1946 г. на стар. 20 гаворыць даслоўна: « У сучасны момант канчаткова ўстаноўлена, што ўсякі жывы арганізм, паходзіць толькі ад такой-жа істоты. Навуковыя даныя ўказваюць, што жыцьцё ўзьнікла на зямлі з няжывой прыроды ў далёкім яе мінулым...» Выходзіць, што няжывая прырода мусіла быць жывою перш чым магла даць пачатак жывым арганізмам, бо-ж сам аўтар сьцьвярджае, што кожны жывы арганізм можа паўстаць толькі ад жывога, або Нехта мусіў яе ажывіць. Якою відавочнаю недарэчнасьцю стараюцца ашукаць селяніна!

**ТАМ ДЗІКІ ЗЬВЕР ПАНУЕ, ДЗЕ ЧАЛАВЕК ПАВОДЛЯ СВАЙГО УПАДАБАНЬНЯ ВАЛАДАРЫЦЬ; А ЗАТОЕ ДЗЕ ПРАВА АБО СТАТУТ ГАРУ МАЕ, ТАМ САМ БОГ УСІМ ВАЛОДАЕ.**

**Леў Сапега**

# Із сучаснае беларускае паэзіі на эміграцыі

М. Сяднёў

## АД СЫНА ТВАЙГО, БЕЛАРУСЬ

Прышоў на зямлю я ад рэчак сьцюдзённых і траў,
І быў няпрыхільна сустрэты людзьмі.
Ад сына твайго, за цябе што ў няволі згараў,
Імклівую песьню прыймі.

Ад сына твайго, за цябе што ў начы
Маліўся за кратамі ў цемры сьвятла
І сэрца крывавіў, твой сьцяг нясучы,
Каб Ты не памерла — жыла.

Ад сына твайго, што ня зрадзіў ніколі табе,
Што з імем Тваім непахісна стаяў, як стаю,
Прыймі ў Тваёй цяжкай, сьвятой барацьбе
Ад шчырага сэрца прызнанасьць маю.

Ты сілы дала мне няўтомнай сваёй і надзей,
Каб згінуць у жорсткай чужыне ня мог.
Я веру, што ў віхры сусьветных падзей
Ты прыйдзеш да ясных сваіх перамог.

Уладзімер Дудзіцкі

## АПОШНЯЯ МАЛІТВА

Яшчэ раз кленчу я ля сьценаў Храма:
— О Божа, Валадар зямлі, скажы Ты,
Чаму-ізноў каля Сьвятое Брамы
Жывое цела бачым на крыжы тым?..

На пліты мармуровыя сьцякае
Кроў сьвежая із ран балючых...
Пустэльнік даўнасьці — раскольнік Каін —
Чало сьціскае ўжо вянком калючым.

Па-над бажніцамі, над купаламі
У стоме чорныя стварэньні кружаць.
Няверцы прышлыя у грэшнай краме
Ля ног згінаюцца халодным вужам...

Нялюдзкі танец свой згібеньне грае
На струнах д'ябальскіх да сьлёз, да ўмору...
Хіба ўжо гэтакая доля Краю,
Табой ахрышчаная ў момант створу?

Упаду лепш сам я каля сьценаў Храма,
І там апошняя малітва будзе:
«Браты і сёстры, пад Сьвятою Брамай
Зямлёю роднаю прыкрыйце грудзі!»

Лістапад, 1945 г.

Уладзімер Дудзіцкі

## ДЛЯ НЕСЬМЯРОТНАЙ БЕЛАРУСІ
### (з паэмы «Маіх уяў ружовых ранкаў»)

Ад болю ўсё яшчэ гудзе
разгневанае цела краю...
Жыве яно, — не памірае:
употайкі цяпло грудзей
ягоных сьпеліць травы поля;
і як ні смаж іх, ні палі —
праз скібы чорныя ральлі
яны зірнуць такі на волю;
крамянай сьвежасьцю вясны
умыюцца. Расой валогі
спалошча мораку цьвілога
зара усходу сьлед квасны,
і усьміхнецца поле хатам;
і як ні смаж іх, ні мары —
убачаць зноў гаспадары
сваіх клапотаў плён багаты.

♦

І хмелем паху пульхны хлеб
змацуе пах акрас і варыў.
І сонца спогаднае хмары —
васеньніх днёў жалобны крэп —
спатоліць, даўшы волю спору.
І як ні смаж іх, ні чарні —
праб'юцца спору карані
у грунт зямлі, зьнябыўшы морак;
напояць сочывам руды,
асьмяглы, глейкі мякіш глебы;
і зашумяць у сінь, у неба
шыракалістыя сады,
налітыя крамяным воскам...
І як ні смаж іх, ні нячы —
яны — найлепшы супачын
гаспадару — тубыльцу вёскі.

♦

І не спаружыцца з красы
краіны зводнік чалавека:
лугоў краса, гаі і рэкі,
вазёры думныя, лясы —
найдаражэйшы скарб прыроды...
І як ні смаж яго, ні плюшч,
а ён бы той балотны плюшч,
расьціме й жыць для насалоды,
але-ж ня зьверу, а людзтву,
бо зьвер, як быў, і будзе зьверам...
І я ня дам ніколі веры,
што мор надыйдзе хараству!
Усё, жыве і жыць што мусіць,
што сьпеліць зорная асець, —
на хвалях прышласьць прынясе
для несьмяротнай Беларусі!

Рыгор Крушына

# Маім братом

Як з дрэва цьвет, злавесны лёс
Вас разагнаў віхром па сьвеце.
І кожны ў сьвет свой крыж панёс,
Радзіму маючы на ўвеце.

Мае выгнаныя браты
Аж за хрыбтамі Гімалаю!
Я вам пішу свае лісты
Бяз маркі, — марай дасылаю.

Спляліся нэрвамі радкі,
Пяюць аб страшна перажытым.
Дабро падзёрта на шматкі,
Агонь прайшоў, як град над жытам.

Вядзе нядоля шлях віты,
Бяздомных гоніць па чужыне.
І я, і ўсе мае браты
Жывём на лепшым успаміне:

Як мы ступіўшы за парог,
Сямейны гоман чулі ў хаце.
Як на Вялікадні пірог
Між нас, дзяцей, дзяліла маці.

А сёньня думкі паплылі
З журбой балючай, нявыгойнай.
Мы на вандроўным караблі,
Ня маем прыстані спакойнай.

Мы ўсе пазналі жах і сум;
Рыпіць жыцьцё ў жабрачым стане.
Сьціхае ўсё: ў пясках самум;
І буры-штормы ў акіяне,

І ў белых тундрах маразы,
І ў горах громы землятруса.
А шум бярозы і лазы
Ня моўкне ў сэрцы беларуса.

Штогод расьце, гучыць мацней,
Шлях да радзімы пракладае.
Сьмяяцца й плакаць, як даўней
Душа трывожная жадае.

# Крыж на руні

(Палеская легэнда)

Макам дробным сеяў дождж на гоні чорныя і неба шэрае, як заяц, тулілася к ральлі. Вузкія палоскі цягнуліся шнурам, баразны ўзараныя, туманом спавітыя, мяжой спаясаныя, ціха прытуліліся адна да аднэй. Між барознаў мокрых жоўтыя травінкі прыліпнулі шчыльна да зямлі. На мяжы сасонка апусьціла вецьце, як грыву кудлатую конік ратая. Сеецца праз сіта дробны дожджык зранку ,вотрубамі жытнімі туманіцца даль. Часам дыхне ветрык, але так нясьмела, нібы баючыся рассыпаць туман. Каркнула варона на суку дубовым, лісьцем пажаўцелым вецер скалыхнуў, і зноў ціха, толькі манатонна шуршыць дождж васеньні аб мокры загон. Вёска дрэмле, дымам, саламянай стрэхай сонна прытулілася ў садох. І здалёку ў шэрані васеньняй заіржыць на пасьбішчы канёк.

Раніца васеньняя неба разгартае, сонейка праглянула праз рэшата хмар, дожджык супыніўся, зямля абсыхае, з барознаў зьбягаюць ручайкі. Страпянула лісьцем белая бяроза, зялёнай чупрынай ясень скалыхнуў, вецер загайдаўся на суках добувых, конь зайржаў ля пуні, заскрыгатаў плуг. Выйшаў на палетак сейбіт старавіна, мазалістай жменяй раскідае дождж залацістых зернят у чорную ніву, каня панукае, паглядае ў неба, крыжам загон значыць, кончыўшы сяўбу. На загоне мяккім упаў на калені, зложыў рукі накрыж, вочы зьвярнуў у неба шэрае ад хмараў і малітвы шопат вырваўся з грудзёў: «Божа ўсемагутны, Стварыцель Сусьветаў, Даляў неаглядных і Жыцьця, пашлі маёй Ніве Долю, Шчасьце, дай наліцца ў пору і дасьпець. Раньнім раньнем росы хай Яе скупаюць, вецярок ўскалыша, сонца абагрэе, ноччу зоркі скажуць казку, салавейка песеньку сьпяе, а жаўронак звонам Яе збудзіць... Хай ўмалотнай будзе мая Ніва, рунь сачыстай зеленьню нальецца, будзе хлеба людзям з мае працы, Божа, Ойча Наш, багаславі Яе»... І застыў вачыма Сейбіт у шэрым небе. — У воблаку, у небе, сам Хрыстос, рукі распасьцёршы, босымі нагамі на Ніву ступае, на чорны загон, у мяккія барозны. Сьвятым Крыжам значыць Сейбіта і Ніву, ступой датыкае мокрую ральлю. Селянін схапіўся і саломкі жытняй на барознах сьвежых крыжам ён паслаў, каб Хрыстос, Сын Божы, сваіх сьвятых ножак на загоне мокрым не змачыў. Сам упаў на калені, тварам, прыльгнуў к Ніве, вуснамі сасмагшымі да чорнай ральлі.

З той пары заўсёды на Палесьсі ў восень крыж сьвяты з саломкі кладуць на загон каб Хрыстос, Сын Божы, ножак сваіх белых, не змачыў расою на ральлі, калі прыдзе раньнім раньнем багаславіць Ніву.

Н. Раса.

# ХРОНІКА

## ТЫДЗЕНЬ МАЛІТВЫ ЗА БЕЛАРУСЬ

Цьвёрда памятаючы сьвятыя словы Хрыста: «Прасеце і будзе вам дадзена» (Мат. 7, 7), беларускія сьвятары і вернікі на эміграцыі арганізуюць у днёх ад 5-га да 12-га кастрычніка «Тыдзень малітвы за Беларусь». Кожны з сьвятароў удзельнікаў адправіць адну Службу Божую ў намераньні Бацькаўшчыны і праз цэлы тыдзень будуць адмаўляцца малітвы за Бацькаўшчыну, а вернікі ў гэты тыдзень кожнага дня будуць гаварыць «Отче наш» і «Багародзіцэ Дзева».

Чым больш шчырая і грамадная будзе гэта малітва, тым больш будзе мець падставы, каб яе выслухаў Міласэрны Бог, а на Яго адзіная наша надзея ў сучасным ліхалецьці, бо «калі Бог ня дасьць, дык і людзі не памогуць».

## БЕЛАРУСКІ НАЦЫЯНАЛЬНЫ ФОНД

Для забесьпячэньня беларускае нацыянальнае прэсы на эміграцыі з пачыну беларускіх арганізацыяў утвораны Беларускі Нацыянальны Фонд. Зборку грошаў праводзяць усе беларускія нац. арганізацыі і ўстановы ўва ўсіх краінах. Сабраныя ахвяры скіроўваюцца ў Беларускі Нацыянальны Цэнтр. Складкі дабравольныя.

## АГУЛЬНАСТУДЭНЦКІ ЗЬЕЗД

У Марбургу 1 і 2-га лістапада мае адбыцца агульнастудэнцкі Зьезд прадстаўнікоў ад ўсіх беларускіх студэнцкіх арганізацыяў на чужыне. На парадку дня маецца цэлы рад важных бягучых спраў.

## ФРАНЦЫЯ

### ДА ВЕДАМА БЕЛАРУСАУ У ФРАНЦЫІ

Беларуская Рэлігійная Місія гэтым падае да агульнага ведама, што ўва ўсіх рэлігійных справах належыць зьвяртацца ў канцылярыю Місіі на адрыс:

Rev. Père L Horosko, 95, rue de Sèvres, Paris (6).

### Акадэмія ў памяць Я. Купалы

Пятыя ўгодкі трагічнае сьмерці Я. Купалы беларуская парыская калёнія адзначыла адпаведнымі ўрачыстасьцямі. Дня 1-га чэрвеня зрана пасьля Службы Божае адбылася паніхіда па с. п. Я. Купале ў капліцы Дзіцяці Хрыста пры цэркві Сан Сюлпіс, а па палудні ў памешканьні Хрысьціянскага Сындыкату адбылася спэцыяльная Акадэмія ў памяць паэта.

### Перавыбары ў управе Беларускага Сындыкату

У зьвязку з ад'ездам сябры Ніхаёнка ў Амэрыку і дымісыяю старшыні парыскага аддзелу Сындыкату беларускіх рабочых, дня 6-га ліпеня адбылася агульная сходка сяброў Сындыкату на якой выбрана нестаючых сяброў управы.

### «Хаўрус» зноў зацьверджаны

Шыракаведамая беларуская арганізацыя ў Францыі «Хаўрус», якая ў выўніку ваенных падзеяў была завешаная, цяпер пастановаю Міністэрства Нутраных Спраў зноў управамоцніваецца і прыступае да дзейнасьці. Адрыс цэнтралі «Хаўрусу»: 65, rues des Gravilliers, Paris (3).

### Пасьля летняга перапынку

Пасьля гарачага сёлетняга лета і вакацыяў арганізацыйнае жыцьцё Сындыкату Беларускіх рабочых у Парыжу агульнаю зборкаю дня 14-га верасьня зноў распачало сваё нармальнае жыцьцё.

### Беларуская бібліятэка ў Парыжу

Пры Сындыкаце Беларускіх Рабочых у Парыжу ад чэрвеня г.г. зарганізавана Беларуская Бібліятэка ім. Я. Купалы. Просіцца ўсе беларускія выдавецтвы і радакцыі прысылаць свае выданьні ў новазарганізаваную Бібліятэку. Слаць належыць на адрыс: 26, rue Montholon, Paris (9).

### БАГАСЛУЖЭНЬНІ ДЛЯ БЕЛАРУСАУ

У Парыжу Багаслужэньні для беларусаў адбываюцца штонядзелі а гадз. 11. у капліцы Enfant Jesus цэркві Saint Sulpice уваход з 2, rue Garancière, даезд мэтро Одэон, або Сан Сюлпіс.

## БЭЛЬГІЯ

### Зьезд Саюзу Беларусаў у Бэльгіі

У зьвязку з прыбыцьцём большае колькасьці новае беларускае эміграцыі ў Бэльгію сябры і сымпатыкі Саюза Беларусаў у Бэльгіі дня 15-га чэрвеня склікалі свой агульны зьезд, на якім быў перагледжаны арганізацыйны статут, адбыліся выбары ўправы, канчаткова разьмяркованы рэфэраты арганізацыі і узгоднена дзейнасьць аддзелаў.

### Курсы францускае мовы і беларусаведы

Дня 22-га чэрвеня ў памешканьні Каталіцкага Прафэсыйнага Інстытуту ў Шарлеруа адбыло-

ся адкрыцьцё курсаў французкае мовы і беларусаведы для мяйсцовых сяброў СББ. Курсы адчыніў адпаведнаю прамоваю рэфэрэнт асьветы пры СББ.

### НОВЫ АДДЗЕЛ БЕЛАРУСКАГА СЫНДЫКАТУ

Пры Саюзе Хрысьціянскіх Сындыкатаў у Ліежы, 29, rue Saint Gilles, Liège (Belgique) дня 21-га верасьня ўтвораны Беларускі Аддзел Сындыкату для абароны правоў беларускіх работнікаў з Ліежа і ваколіц.

## АНГЛІЯ

### Рэлігійнае жыцьцё

Пачынаючы ад 15-га чэрвеня г.г. у Лёндане штонядзелі а гадз. 9,30 адпраўляюцца а. др. Ч. Сіповічам багаслужэньні для беларусаў у Litlle Chappel Bromton Oratory Адрыс канцылярыі а. др. Ч. Сіповіча: 21 The Oval, Hackney Road, London E. 2.

### Адведзіны прэз. М. Абрамчыка

Дня 9-га ліпеня г.г. сп. Прэз. інж. М. Абрамчык прыяжджаў на кароткую візіту ў Лёндан. Для ўсіх беларусаў у Лёндане і ўва ўсёй Англіі, гэтая візіта была вельмі радасным зьявішчам. Гэтую радасьць беларуская эміграцыя праяўляла на кожнай зборцы і сходцы, асабліва на тых, дзе сп. Прэзыдэнт выступаў з дакладамі.

### Беларускі дом ў Лёндане

Згуртаваньне Беларусаў у Вялікай Брытыніі (ЗБВБ) вядзе энэргічную зборку грошаў на куплю свайго дому ў Лёндане. Зборка прайходзіць так памысна, што хутка можна будзе ажыцьцявіць намечаную куплю.

## НЯМЕЧЧЫНА

### Стыпэндыяльны фонд

Каб умагчыміць далейшыя студыі для беларускіх студэнтаў з ініцыятывы АБСА утвораны стыпэндыяльны фонд, які зьбіраецца з дабравольных ахвяраў беларускае эміграцыі.. Беларускае студэнцтва знайходзіцца ў цяжкіх умовах і таму заклік Цантралі Белар. Студ. Арг. на чужыне заслугоўвае самага шчырага падтрыманьня.

### Каталіцкія парахвіі

На працягу гэтага году на абшары Нямеччыны ў ангельскай і амэрыканскай зоне паўстаюць што раз новыя парахвіі, на жаль ёсьць толькі адзін беларускі сьвятар слав. - кат. (уніят), які тымчаса абслугоўвае вернікаў у Ватэнштэце, Остэргофэне, Міхельсдорфе, Віндзішбэргэрсдорфе, а Рэгэнсбург і іншыя цэнтры тумчасам ня маюць зусім свайго сьвятара, але пароблены адпаведныя захады, каб іх атрымаць.

### Другі гадавы Зьезд Беларускіх Скаўтаў.

У днях 8-10 жніўня ў Остэргофэне адбыўся другі гадавы зьезд беларускіх скаўтаў з ўсіх трох акупацыйных зонаў зах. Нямеччыны.

У выніку нарадаў унесена некаторыя папраўкі ў статут ЗБСЧ. Прынята канчаткова назоў арганізацыі «Згуртаваньне Беларускіх Скаўгаў на Чужыне». Нашыўкі і нарукаўнікі ў ангельскай зоне ўсталена «Уайтрутэніен» Whiteruthenien Наступна выбрана галоўнае кіраўніцтва, уканцы накрэсьлена цэлы рад пастановаў і рэзалюцыяў, накрэсьліваючых праграму далейшае дзейнасьці арганізацыі. На заканчэньне Зьезду адбылося ўрачыстае скаўцкае вогнішча ў скаўцкім табары. Зьезд наведаў 2 разы прадстаўнік амэрыканскіх скаўтаў.

### Першая Беларуская Тэатральная Студыя на эміграцыі

У беларускім лягэры Д.П. у Міхэльсдорфе адчынілася Беларуская Тэатральная Студыя, якая мае на мэце падрыхтаваць новыя артыстычныя сілы на рэпрэзантацыі беларускага тэатральнага мастацтва на эміграцыі. Заснавальнікам і мастацкім кіраўніком Студыі зьяўляецца сп. А. Кавалеўскі, знаны мастак беларускае сцэны.

Падрыхтоўчы курс Студыі разьлічаны на чатыры месяцы.

З часам Беларуская Тэатральная Студыя мае ператварыцца ў сталы Беларускі Тэатр-Студыю, які будзе абслугоўваць беларускае грамадзтва і грамадзтва іншых нацыянальнасьцяў на эміграцыі.

### Другая гадавіна існаваньня беларускага лягэру ў Ватэнштэце.

Беларускі лягэр у Ватэнштэце дня 30-га ліпеня ўрычыста сьветкаваў 2-ю гадавіну свайго існаваньня і з гэтае нагоды адбылося шмат урачыстасьцяў і імпрэзаў. Дзень пачаўся ўрачыстым падняцьцем сьцягу і Службаю Божаю. У 11 гадзін адбыліся спартовыя спаборніцтвы, а ў 12 гадзін адбыўся канцэрт мастацкае самадзейнасьці Лягэру. Выступаў танцавальны гурток і лягэрны хор. Канцэрт быў на добрым узроўні і зрабіў вельмі прыемнае ўражэньне.

З нагоды 2- гадавіны існаваньня лягэру была наладжана выстаўка саматканаў і вырабаў жы-

хароў лягэру. Выстаўка дала каляровы абраз беларускага ткацкага мастацтва і рукадзельніцтва. Адначасна былі паказаны вырабы лягэрных майстроў: сьлесароў, сталяроў, краўцоў, мастакоў і інш... Асобнае месца было адведзена лягэрнаму гародніцтву. Лепшыя экспанаты былі адзначаны прэміямі.

### Беларускія экспанаты на міжнароднай выстаўцы ў Вашынгтоне.

Беларускі лягэр у Ватэнштэце пераслаў на міжнародную выстаўку ў Вашынгтон шэраг экспанатаў. Між іншым, пасланы мадэль ткацкага варштату з натканым палатном. Мадэль быў выкананы лягэрнымі сталярамі і ў мінулым годзе адзначаны на выстаўцы у Браўншвайгу. Да ткацкага варштату далучаны мадэлі ўсіх ведамых на Беларусі ільноапрацовачных прыладаў з паясьненьнем іх значэньня. Пасланы таксама вырабы нашых сьлесароў, мастакоў і лягэрныя выдавецтвы.

### БЕЛАРУСКАЯ ХАРЫТАТЫЎНАЯ СЛУЖБА

Для беларусаў пражываючых на абшары Зах. Нямеччыны ад жніўня гэтага году ўтворана Беларуская Харытатыўная Служба з цантральным аседкам у Ватэнштэце. Дырэктарам зьяўляецца а. М. Маскалік. Ува ўсіх харытатыўных справах трэба зьвяртацца на адрыс:

Weissruthenischer Caritas-Dinst, Watenstedt, Post Immendorf, Lager ABC. Brit. Zone.

### Новая Беларуская Гімназія.

У беларускім лягэры Остэргофэн зарганізавана Беларуская Гімназія. Шмат гімназійнае моладзі прыналежыць да Беларускага Скаўтынгу.

## Усеправаслаўны сабор у Маскве не адбудзецца

Александрыйскі Праваслаўны Патрыях Хрыстафор II, вяртаючыся з падарожжа па Грэцыі, заявіў, што ён запрасіў Візантыйскага Патрыярха Максіма наведаць у гэтую зіму Египет. Пры гэтай нагодзе ён сказаў, што запраектаваны ўсеправаслаўны сабор у Маскве адложаны да наступнага году; усе ўсходнія патрыярхі адкінулі запросіны, прысланыя ім Маскоўскім Патрыярхам Аляксеям.

Мейсца запраектаванага сабору ящчэ ня ўсталена, але Патрыярх Хрыстафор II заявіў: «Мы ня згодзімся ехаць у Савецкі Саюз і прапануем як мейсца сабору або Ерусалім, або гару Атос.

Відаць, што ў праваслаўных кругох адчуваюць недавер адносна маскоўскага патрыярха, прынамся калі не да яго асобы, дык да яго краю.

## У СПРАВЕ ПАДПІСКІ

Для хутчэйшага і выгаднейшага атрыманьня нашага часапісу чытачом з абшару Нямеччыны радзім палагодзіць падпіску праз Беларускае Душпастырства для Нямеччыны:

Hoch. Dechant Michael Moskalik, Goslar-Harz, Sommenwohlenstr. 1. A. Brit. Zone.

У Англіі праз Беларускае Душпастырства для Англіі:

Rev. dr. Ceslau Sipovic, 21, The Oval, Hackney Road, London, E. 2.

## ЗАКЛІК ДА МОЛАДЗІ

**У выніку нядаўных ваенных падзей да таго вельмі рэдкія рады беларускага сьвятарства парадзелі зусім, але адначасна працы для сьвятароў значна пабольшала. Беларускі Народ перажывае цяпер цяжкія часы і нясе вялікія ахвяры і дзеля гэтага яму неабходнае шчырае духовае падтрыманьне і суцяшэньне. Сёньня і ў бліжэйшай будучыні, як ніколі патрэбны людзі, што падзялілі-б з народам яго боль і цярпеньне, і каб занесьлі іх перад аблічча Усявышняга, і каб адначасна сталіся запраўднымі сьвятарамі, што асьвечваюць і асьвячваюць народ.**

**Да цябе, беларуская моладзь, зьвятаецца гэты кліч, і на цябе пакладаецца надзея, што ў сваіх радох знойдзеш адпаведных юнакоў, якія згодзяцца ахвяраваць сябе выключна на працу для народу на рэлігійнай ніве, каб несьці Божае сьвятло і праўду між сваіх братоў. Бясспрэчна, што кожны мусіць перш сам добра пазнаць і ўспрыняць тую праўду, якую мае пашыраць і для якое мае служыць усё сваё жыцьцё. Хто мае хоць дробную Божую іскарку да гэткае працы, хто мае жаданьне працаваць сьвятаром для славы Божае і для грамадзкага дабра, хай неадкладна зглосіцца па бліжэйшыя інфармацыі на адрыс:**

Rev. Père Leo Horosko, 95, rue de Sèvres, Paris (6). France.

# ПОШУКІ

**Марцінкевіча Васіля** нар. у в. Лонскія і **Марцінкевіча Паўла** шукае **Марцінкевіч Барбара.**
N. O. H. Spring Bottoms, Ramsdenwood, Walsden, Todmorden, England.

**Багдан Аркадзію** з Ганцавіч шукае брат **Багдан Мікалай:**
H. S. Hostel, A 20/104, 56 Onslaw Square, South Kemingston. London, S. W. 7, England.

Брата **Адамовіча Юзіка** нар. 1923 г., швагра **Шановага Івана,** дзядзька **Язьвінскага Івана** і знаёмых **Нікановіча Рыгора, Кулака Васіля, Басянка Уладзіміра, Басянка Антона** і **Патуру Аляксандра** шукае **Адамовіч Станіслаў:**
Lager Haldinau Camp 235. D. P. Block 213, Kreis Harburg, b/Tostd. Prow. Hannover. Germany, Brit. Zone.

## ПАВЕДАМЛЕНЬНЕ

### ЗЬМЕНА АДРЫСУ АБРФ

**Паведамляем усіх сяброў, арганізацыі і інстытуцыі, што у зьвязку з купляй новага дому французскім Хрысьціянскім Сындыкатам усялякую карэспандэнцыю трэба скіровываць на наступны адрыс:**
**Union des Travailleurs Biélorussiens en France, 26, rue Montholon, Paris (9).**

### ЗЬМЕСТ



**Садоўнікаў Лявона** нар. 1920 г., **Быкоўскага Міхася** і **Пятроўскага Зэнона** ўсе пах. з Радашкавічаў, шукае **Рудзь Максім:**
Cannon Hall, near Barnsley (Yorks.). England.

Пісаць на адрыс радакцыі.

**Янушэвіча Антона** с. Якуба, **Янушэвіча Даніла** с. Паўла, **Янушэвіча Рыгора** с. Клімэнта, **Пякарскага Арцёма** с. Ціхона, і **Лысуху Уладзіміра** с. Сьцяпана, якія выехалі ў З.Ш.П. Амэрыкі з вёскі Сурынка пам. Слонім шукае іх аднавясковец а. **Тодар Данілюк.**

**Рагалевіча** Стася нар. 1924 г. шукаюць яго бацькі

**Кур'яновіча** Язэпа з Салонага (Даўгінаў), які да 1939 г. жыў у Парыжу, шукае сваяк Анатоль Машонскі.

**Жылевіча** Лаўрэна сына Гаўрылы шукае яго блізкі родны з паручэньнем ад Жылевіча Сяргея.

**Рашатко** Паўла, які ў 1929 г. выехаў у Францыю з в. Трашчычы, шукае «школьны сябра».

**Гарошка** Александра, які ў 1935 г. выехаў разам з маткай і сястрой у З.Ш.А. і пражываў у штаце Нев-Іорк, шукае «стары знаёмы».

**Леўковіч** Ніна просіць ўсіх знаёмых, якія загубілі зь ёй кантакт, адгукнуцца на адрыс радакцыі.

**Пазьняк** Ольга шукае сваіх сясьцёр.

**Ракача** Мацея, які ў 1928 г. выехаў у Аргэнтыну, шукае «аднавясковец».

## Да ведама прыяжджаючых у Францыю

Апошнім часам з Нямеччыны ў Францыю прыяжджаюць невялікія транспарты рабочых, між якімі знайходзяцца і беларусы. Гэтыя асобы дзеля ўласнае карысьці і агульнага дабра, прыехаўшы на абшар Францыі, хай пастараюцца неадкладна падаць аб сабе вестку адзінай арганізацыі беларускіх рабочых ў Францыі — Сындыкат Беларускіх Рабочых пры С.Ф.Т.С., або ў Беларускую Рэлігійную Місію. Адрасы гэтых ўстановаў паданы вышэй.

Там знойдзеце найдакладнейшыя інфармацыі пра ўмовы жыцьця ў Францыі, юрыдычныя парады ўва ўсіх справах адносна дакумантаў і беларускае эміграцыі ў Францыі, дапамогу ў навязаньні лучнасьці з вашымі роднымі і сябрамі, разгубленымі па сьвеце.


Directeur : Abbé L. Horosco.

Impr. de Navarre, 11, rue des Cordelières, Paris.